Гродна
№2 (484),
21 студзеня 2018

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



18–25 СТУДЗЕНЯ

## ЗЛУЧЫМ НАШЫ РУКІ, ЗВЯЗАНЫЯ ХРЫСТОВАЙ ЛЮБОЎЮ

ТРЫВАЕ ТЫДЗЕНЬ МАЛІТВЫ АБ ЕДНАСЦІ ХРЫСЦІЯН.

Гэтая ініцыятыва паўстала адносна нядаўна ў рамках экуменічнага руху за аб'яднанне ўсіх хрысціянскіх канфесій. Але ці правільна ўсе мы разумеем, што насамрэч маецца на ўвазе пад экуменізмам?

• працяг на с. 3

## Дапамагчы ўбачыць свет кончыкамі пальцаў

Тактыльныя кнігі для невідушчых дзяцей і дзяцей з парушэннямі зроку ствараюць вучні сярэдняй школы № 35 імя М. А. Волкава ў Гродне. На старонках гэтых асобнікаў месяцца ўласнаручна створаныя рэльефныя выявы, а таксама тэкст, напісаны шрыфтам Брайля, які з'яўляецца тлумачэннем да мяккіх малюнкаў.

• працяг на с. 4



"Малітва – гэта паліва на шляху да поўнага адзінства". Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### III ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Мк 1, 14–20**

Пасля таго, як выдалі Яна, прыйшоў Езус у Галілею, прапаведуючы Евангелле Божае і кажучы, што настаў час і наблізілася Валадарства Божае: кайцеся і верце ў Евангелле.

Праходзячы ж каля Галілейскага мора, убачыў Сымона і Андрэя, брата Сымона, якія закідалі сеткі ў мора, бо яны былі рыбакамі. І сказаў ім Езус: "Ідзіце за Мною, і Я зраблю вас рыбакамі людзей". І, адразу пакінуўшы сеткі, яны пайшлі за Ім.

Адышоўшы крыху далей, Ён убачыў Якуба Зэбэдэевага і Яна, брата ягонага, якія таксама сядзелі ў чаўне і ладзілі сеткі. І адразу паклікаў іх. І, пакінуўшы бацьку свайго Зэбэдэя ў чаўне з работнікамі, яны пайшлі за Ім.

### СТАЦЬ АПОСТАЛАМ ХРЫСТА

Езус выбраў апосталаў з ананімнага натоўпу і заклікаў па імені, каб заклалі фундамент для Яго Касцёла. Сымон, Андрэй, Якуб і Ян пакінулі ўсё і накіраваліся за Хрыстом. Яны, можа, не былі надта багатымі, таму не мелі вялікіх цяжкасцей з тым, каб пакінуць усё, у адрозненне ад заможнага маладога чалавека, які не пайшоў за Езусам з-за таго, што надта прывязаўся да матэрыяльных каштоўнасцей. Праз сувязь з Месіяй, праз удзел у Яго вялікай справе вучні сталі вялікімі. Зрабіліся прыладамі ў Яго руках.

Незалежна ад прафесіі кожны чалавек павінен стаць апосталам Езуса і сеяць супакой ды дабро ў людскіх сэрцах; не толькі словам, але і канкрэтнымі ўчынкамі сведчыць пра свайго Настаўніка і весці да Яго іншых.

Давайце шукаць іншага чалавека, дастуквацца да згубленых сэрцаў ды скіроўваць сваіх блізкіх, родных, сяброў і знаёмых да Бога і Яго Касцёла.

**Што я раблю, каб іншыя людзі побач са мной станавіліся лепшымі?**

**Ці здольны я быць апосталам Езуса Хрыста?**

### IV ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Мк 1, 21–28**

У горадзе Кафарнауме Езус увайшоў у шабат у сінагогу і навучаў. І здзіўляліся вучэнню Ягонаму, бо Ён вучыў іх як той, хто мае ўладу, а не як кніжнікі. І быў тады ў сінагозе чалавек, апанаваны нячыстым духам, які закрычаў: "Што Табе да нас, Езус Назарэнін? Ты прыйшоў загубіць нас? Ведаю Цябе, хто Ты: Святы Божы". Але Езус забараніў яму, кажучы: "Змоўкні і выйдзі з яго". Тады дух нячысты, тарганууўшы яго і закрычаўшы моцным голасам, выйшаў з яго. І здзівіліся ўсе, так што пыталіся адзін у аднаго, кажучы: "Што гэта? Новае вучэнне, якое мае моц? Ён і духам нячыстым загадвае, і яны слухаюцца Яго". І адразу разышлася пра Яго чутка па ўсёй ваколіцы Галілеі.

### АДКРЫЦЦА НА ЛАСКУ БОГА

Сённяшняе Евангелле расказвае пра тое, як Хрыстос аздаравіў апанаванага чалавека, што знаючы выгнаў з яго злога духа. Гэтая красамоўная сцэна мае глыбокае эмацыянальнае адценне, таму што сучасныя людзі вельмі падвержаны разнастайным цывілізацыйным раненням і хваробам.

Безумоўна, у жыцці ўсё больш клопатаў і смуткаў. Усё часцей мы падпарадкоўваемся "нячыстым духам", што пазбаўляюць радасці. Перад абліччам сучасных праблем – хаця б такіх як спажывецкі лад жыцця, пастаянная спешка, крызіс сям'і, страта хрысціянскіх каштоўнасцей – да нас прыходзіць Хрыстос і гаворыць: "Выйдзі з яго". Аднак гэтыя гаючыя словы патрабуюць далейшага супрацоўніцтва з Лекарам душ. Таму не дастаткова проста час ад часу паспавядацца ці прыгадаць сабе ў цяжкую хвіліну, што можна ж памаліцца. Гаворка ідзе пра штодзённую вернасць, зберажэнне ласкі ацалення, якою Пан адорвае кожнага чалавека.

**Што для мяне з'яўляецца прыярытэтам у жыцці?**

**Ці адкрыты я на ласку Пана Бога?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Адзінства – мэта місіі Хрыста

*Тыдзень малітвы аб еднасці хрысціян, які стаў цыклічным святам экуменізму, прыгадвае пра тое, што ўсе мы з'яўляемся адной сям'ёй Божых дзяцей. У гэты час нанова ўсведамляем сабе, што Хрыстос прыйшоў у свет, каб сабраць авечак у адну Аўчарню. Галоўная мэта Яго місіі – збаўленне чалавека – не можа быць рэалізавана без адзінства. План Бога для чалавецтва, Касцёла, сужэнства, сям'і, супольнасці заключаецца ў тым, каб усе трывалі ў еднасці з Ім і адзін з адным.*

Сапраўднае адзінства мае свой узор, мадэль. Для хрысціян гэта Святая Тройца. Еднасць Трыадзінага Бога з'яўляецца плёнам узаемнай любові Айца, Сына і Духа. І таму хрысціянская супольнасць павінна паўставаць на фундаменце любові і ёй кіравацца кожны дзень.

Варта таксама памятаць, што побач з любоўю заўсёды крочыць прабачэнне. Там няма месца навязванню ўласных меркаванняў ці дэманстрацыі сваёй выключнасці. Безумоўна, не заўсёды можам згадзіцца з поглядамі іншых асоб, але, нягледзячы ні на што, павінны надалей служыць людзям і адорваць іх любоўю. Адзінства з'яўляецца Божым дарам, таму трэба шчыра і старанна маліцца аб ім. Усе падзелы паходзяць ад злога. Нельга дазволіць яму кіраваць нашым жыццём.

На жаль, людзі часта забываюцца, што будаванне еднасці пачынаецца з кожнага чалавека і яго асабістай паставы. Асоба павінна толькі прыняць дар еднасці ў Святым Духу, Божую ласку. Аднак гэта патрабуе адпаведнай падрыхтоўкі, намаганняў, каб выйсці насустрач іншаму і разам зірнуць у адным напрамку.

Калі мы лічым сябе вучнямі Збаўцы, павінны служыць адзінству, паколькі толькі так можа здзейсніцца Божы план збаўлення. З'яднаны Касцёл здольны здзяйсняць вялікія рэчы і быць сапраўдным сведчаннем для свету, паколькі ў еднасці ўтоена моц.

**Дарагія Чытачы!**

Падчас сёлетняга Тыдня малітвы аб адзінстве хрысціян давайце як мага часцей звяртацца да Бога словамі, што чуем падчас кожнай св. Імшы: "Пане, не зважай на грахі нашыя, але на веру Касцёла Твайго і будзь ласкавы згодна з Тваёй воляй адарыць яго супакоем і еднасцю". Даручаем Касцёл Стварыцелю і молім Пана аб ласцы знікнення падзелаў у Яго Аўчарні. Просім адарыць асоб, што спрыяюць збліжэнню, подыхам Святога Духа, які вядзе да праўды, напаўняе любоўю і распальвае жаданне адзінства.

## "НАШЫ ЗАСТУПНІКІ ПЕРАД БОГАМ"

# СВ. ЯН БОСКА: ЗАСТУПНІК МОЛАДЗІ

***Святы ўсім сэрцам палюбіў моладзь. Будаваў святыні, школы і навучальныя ўстановы. Дапамагаў маладым людзям здабыць адукацыю, прафесію... Непахісна ўказваў ім правільную для хрысціяніна мадэль жыцця. Быў стварыцелем арыгінальнай у сваёй прастаце сістэмы выхавання, якая абапіралася на розуме, рэлігіі і любові. Аб яе плённасці сведчыць узнясенне да хвалы алтара выхаванца кс. Яна Боска – св. Дамініка Савіо.***



*У іканаграфіі св. Ян Боска адлюстраваны як святар у манаскай сутане. Часцей за ўсё паказаны ў акружэнні моладзі.*

### ХАРЫЗМАТЫЧНЫ ВЫХАВАЦЕЛЬ

Ян Боска нарадзіўся ў беднай сям'і п'емонцкіх сялян 16 жніўня 1815 года ў мястэчку Бэкі каля Турына (Італія). Бацька памёр, калі хлопцу было ўсяго 2 гады. Яго і яшчэ 2-іх братоў выхоўвала маці.

З ранняга дзяцінства вялікую радасць хлопцу прыносіла малітва і размовы пра Бога. І св. Камунію прыняў ва ўзросце 11 гадоў. Пасля заканчэння пачатковай школы працягваў навучанне, самастойна зарабляючы грошы на ўтрыманне і зняткі. Пасля выпуску паступіў у духоўную семінарыю ў Турыне. Яго духоўным айцом быў св. Джузэпэ Кафаса. Атрымаўшы святарскае пасвячэнне 5 чэрвеня 1841 года, распачаў душпастырскую працу: спачатку сярод хворых і вязняў, а затым сярод моладзі.

Прагнуў фарміраваць розумы і сэрцы маладых у духу Евангелля. Забараніў выкарыстоўваць цялесныя пакаранні. Лічыў, што выхавацель павінен быць для падапечных найперш сябрам. Святар валодаў нязвыклым педагагічным дарам, мог уплываць на сэрцы дзяцей і моладзі. Абуджаў давер і лячыў эмацыянальныя раны. І ўсё гэта рабіў з Панам Езусам, які быў для кс. Яна Боска галоўным і найлепшым Выхавацелем.

Па ініцыятыве будучага святога паўсталі пачатковыя і прафесійныя школы, інтэрнаты. У паслузе святару дапамагала яго маці, якая пасялілася ў араторыі ў Турыне. У 1859 годзе кс. Боска заснаваў Салезіянскае Таварыства. З 1872 года выхаваўчую справу падтрымлівалі сёстры з Кангрэгацыі Дачок Марыі Дапаможніцы Вернікаў, якія пачалі апекавацца дзяўчатамі.

Кс. Боска прапагандаваў форму кішэннай кніжкі евангелізацыйнага, гістарычнага ці місійнага зместу. Пісаў аскетычныя тэксты. Для іх стварэння натхняўся духоўнай мудрасцю св. Францішка Сальскага. Умеў выкарыстоўваць прэсу з апостальскай мэтай. Развіваў выдавецкую працу. Заснаваў у Турыне ўласную друкарню.

На працягу ўсяго жыцця верна служыў Хрысту, а Настаўніцай была яму Марыя, якую палюбіў як Дапаможніцу вернікаў. Дэвіз "Дай мне душу, астатняе забяры" быў для святога дарогай увасаблення Евангелля ў штодзённасць.

Святар адышоў да Пана 31 студзеня 1888 года. У розных частках свету пакінуў пасля сябе мноства пляцовак, дзе душпастырскай і выхаваўчай працай па сёння займаюцца ксяндзы салезіяне. Іх дзейнасць нястомна развіваецца. Прадстаўнікі супольнасці служаць таксама ў Беларусі.

### ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. ЯНА БОСКО?

Кс. Ян Боска вучыць прымаць у пакоры і са спакойным сэрцам тое, што прыносіць штодзённае жыццё: разнастайныя клопаты, цяжкасці і праблемы, а нават цярпенні, якія, магчыма, перажывае кожны. Вучыць трываць пры Богу ва ўсе гадзіны жыцця, а таксама ў хвіліну смерці. Прыгадвае, што для чалавека найважнейшым павінен быць клопат пра душу. Дарогай, якая вядзе да збаўлення, з'яўляецца святасць, пабудаваная на фундаменце Хрыстовых блаславёнстваў.

### ЦІКАВА!

Кс. Ян Боска меў, найперш, дар чытаць у людскіх сумленнях, што дапамагала яму ў фарміраванні характараў даручаных Богам моладзі. Падчас беатыфікацыйнага працэсу многія сведчылі аб спазнаных цудах праз заступніцтва святога.

### З ВУСНАЎ СВЯТОГА

"Пра Бога думайце з верай, пра бліжняга – з любоўю, пра сябе – з пакорай. Пра Бога гаварыце з абажаннем, пра бліжняга – так, як бы хацелі, каб пра вас казалі, пра сябе гаварыце з прыніжэннем або маўчыце".

### ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН

Касцёл узгадвае св. Яна Боска 31 студзеня.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Злучым нашы рукі, звязаныя Хрыстовай любоўю

### ПАМЫЛКОВЫЯ ПОГЛЯДЫ НА ЭКУМЕНІЗМ

Экуменізм – гэта рух, накіраваны на зблíжэнне, прымірэнне і супрацоўніцтва ўсіх хрысціянскіх канфесій, "у тым ліку на аднаўленне зносін у сакрамантах паміж раз'яднанымі хрысціянскімі Цэрквамі пры захаванні своеасаблівасці іх традыцый і абрадаў" (Каталіцкая энцыклапедыя). Падразумяваецца збліжэнне хрысціян на аснове талерантнага стаўлення да традыцый і абрадаў іншай Царквы, з-за чаго, у рэчаіснасці, і існуюць разыходжанні ў веравызнанні паміж рознымі канфесіямі. Вера ж ва ўсіх хрысціян адна – у Збаўцу Езуса Хрыста, Сына Божага, які адкупіў чалавецтва. У той час як іншыя сусветныя рэлігіі лічаць Езуса Прарокам, цудатворцам (іслам) або не прызнаюць увогуле ні як Месію, ні як Прарока (іудаізм).

Перад укрыжаваннем Хрыстос маліўся, "каб усе былі адно" (Ян 17, 21). Ён пакінуў чалавецтву заданне стварыць на зямлі Яго Касцёл – адзіны. Гэтую місію Збаўца даверыў Апосталам на чале з Пятром. З часам пачалі ўзнікаць разыходжанні ў пытаннях будавання Касцёла, а нават і веравучэння. Гэта стала прычынай утварэння іншых канфесій у хрысціянстве. Але, як было сказана на II Ватыканскім саборы, яны "не пазбаўлены значэння і каштоўнасці ў таямніцы збаўлення", "нішто сапраўды хрысціянскае ніколі не супярэчыць сапраўдным выгодам веры, але, наадварот, можа садзейнічаць больш дасканаламу пранікненню ў таямніцу Хрыста і Касцёла" (Дэкрэт аб экуменізме "Аднаўленне адзінства").

Клопат аб аднаўленні адзінства ляжыць абсалютна на ўсіх хрысціянах: як на супольнасцях, так і на людзях асобна, як на душпастырах, так і на верніках. Варта нястомна клапаціцца аб узрастанні ў любові: "такім чынам, з дня ў дзень усё паўней праяўляецца паўсюднасць і апостальства Царквы" ("Аднаўленне адзінства").

Менавіта гэты аспект з'яўляецца найважнейшым у будаванні еднасці паміж хрысціянамі. Крокі насустрач адзін аднаму павінны грунтавацца, найперш, на запаведзі любові. Іх належыць здзяйсняць з павагай, асцярожна і цярпліва. Вялікай памылкай будзе навязванне светапогляду. Будаваць дыялог неабходна не на тым, што раз'ядноўвае, але на тым, што аб'ядноўвае.

### ЭКУМЕНІЗМ У РЭЧАІСНАСЦІ

У хрысціянскай супольнасці экуменічны дыялог на практыцы можам назіраць, калі дзеці некаталіцкага веравызнання наведваюць катэхетычныя заняткі пры Касцёле, духавенства ўдзельнічае ў набажэнствах з нагоды галоўных хрысціянскіх урачыстасцей у святынях іншых канфесій. Такія прыклады наглядна сведчаць аб тым, што веравызнанне не становіцца перашкодай да адкрытых узаемаадносін паміж хрысціянамі.

У грамадстве таксама нярэдкія гісторыі заключэння сужэнскіх саюзаў паміж вернікамі розных канфесій, т. зв. "змешаныя" шлюбы. Паглядзім праўдзе ў вочы: у такіх выпадках хрысціяне бяруць на сябе нялёгкае заданне – весці ў сям'і экуменічны дыялог на працягу ўсяго жыцця. Некаторыя аб'ядноўваюць свае дарогі ў вусце, пасля чаго крочаць разам: наведваюць святыню адной канфесіі, хрысцяць там дзяцей, прымаюць іншыя сакраманты. Некаторыя прытрымліваюцца адноснага суверэнітэту: двойчы святкуюць хрысціянскія ўрачыстасці, разам (паперамéнна) ці паасобку (кожны ў "сваёй" святыні) удзельнічаюць у ндзельных службах. Пры гэтым яны – у лепшым выпадку – выбудоўваюць "хатнюю Царкву" дома: супольна моляцца, выхоўваюць у сынах і дочках галоўныя хрысціянскія каштоўнасці.

"Я гадаваўся ў сям'і глыбока веруючых людзей: мама ў мяне – каталічка, бацька – праваслаўны, – распавядае кс. канонік Уладзімір Гуляй, пробашч парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе. – Нягледзячы на канфесійныя адрозненні, я ніколі не адчуваў у сям'і падзелу, што датычыць пытанняў веры. Адносіны паміж намі выбудоўваліся на любові да Бога і адзін да аднаго, што найважнейшае. У сваёй сям'і я на ўласныя вочы бачыў, што Хрыстовы Касцёл адзіны. Памятаю, як паведаміў бацькам аб сваім рашэнні стаць святаром. І мама, і тата з радасцю блаславілі мяне на гэты няпросты шлях".

Узорным прыкладам сужэнскага саюзу паміж вернікамі розных канфесій можна лічыць шлюб, заключаны паміж праваслаўным расійскім вайскоўцам Аляксандрам Светчыным і каталічкай Аляксандрай Біспінг. Яго плёнам сталі пабудаваныя ў XIX ст. у Вярэйках касцёл і непадалёк, у Кузьмічах, царква (дэканат Ваўкавыск). Усе цяжкасці пры ўзвядзенні святынь сужэнская пара дзяліла папалам. Ад пачатку муж і жонка не мелі намеру засяроджвацца на адрозненнях у веравызнанні, а проста паклалі сваё жыццё на алтар духоўнай будучыні хрысціянства. У выніку, зрабілі магчымай для шматлікіх вернікаў сустрэчу з Хрыстом у Эўхарыстыі пад Божым дахам.

Па-за сценамі святыні экуменічны дыялог адбываецца на шматлікіх узроўнях грамадскага жыцця. Хрысціяне, незалежна ад веравызнання, аб'ядноўваюцца дзеля арганізацыі і правядзення разнастайных дабрачынных акцый, каб разам супрацьстаяць злу і несправядлівасці, абараняць сапраўдныя жыццёвыя каштоўнасці. Як было падкрэслена падчас II Ватыканскага сабору, такое супрацоўніцтва трэба ўсё больш удасканальваць, "асабліва ў тых месцах, дзе адбываецца сацыяльная або тэхнічная эвалюцыя: правільна ацэньваць чалавечую асобу, садзейнічаць справе міру, выкарыстоўваць Евангелле ў сацыяльным жыцці, развіваць навуку і мастацтва ў хрысціянскім духу, прымяняць разнастайныя сродкі для пераадолення такіх няшчасцяў нашага часу, як голад і стыхійныя бедствы, неадукаванасць і галеча, адсутнасць жылля і няроўнае размеркаванне выгод. Такім супрацоўніцтвам усе веруючыя ў Хрыста лёгка могуць зразумець, як лепш пазнаваць і паважаць адзін аднаго, як пракласці шлях да адзінства хрысціян" ("Аднаўленне адзінства").

*Ангеліна Пакачайла*

**Католік настроены на экуменічны дыялог з праваслаўным ці пратэстантам, калі...**

- ✗ настойвае на памылковасці ўстаноўленых яго Царквой урачыстасцей
- ✓ віншуе яго з рэлігійнымі святамі
- ✗ адмаўляецца маліцца з ім да "не свайго" Бога
- ✓ супольна злучаецца з ім на малітве
- ✗ сцвярджае, што рэлігія апанента "няправільная"
- ✓ адкрыты на дыялог па пытаннях веры

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ




**"Правіца Твая праслаўлена моцаю" (Зых 15, 6)**

*Матэрыялы на сёлетні Тыдзень малітвы аб еднасці хрысціян былі падрыхтаваны Касцёлам на Карыбах. Інтэгральнай часткай цэлебрацыі малітоўнага набажэнства з'яўляюцца Біблія і 3 камплекты ланцугоў.*

*Біблія была для каланізатараў на Карыбах падставай для падпарадкавання мясцовых жыхароў гэтых земляў і пашырэння нявольніцтва, з другога боку – стала крыніцай суцяшэння і вызвалення для многіх, хто цярпеў уціск і быў эксплуатаваны. Кайданы з'яўляюцца моцным сімвалам зняволення, дэгуманізацыі і расізму. Яны з'яўляюцца таксама знакам улады граху, які аддзяляе людзей ад Бога і адзін ад аднаго.*

*"Хто захоўвае слова Хрыста, у тым сапраўды любоў Божая дасканалая. Дзякуем Стварыцелю за нашу хрысціянскую спадчыну і за Яго вызваляючае і збаўчае дзеянне ў чалавечай гісторыі. Пакорна просім, Пане, каб дзякуючы Тваёй ласцы Цэрквы ва ўсім свеце сталі прыладамі міру. Праз іх супольную дзейнасць, як паслоў і пасрэднікаў Твайго аздараўлення, а таксама яднаючай любові сярод падзеленых народаў, няхай Тваё Імя будуць свяціць і любіць. Амэн".*

*З матэрыялаў, падрыхтаваных на Тыдзень малітвы аб еднасці хрысціян (18–25 студзеня 2018 г.)*

**Папа Францішак**



*Не дастаткова ствараць вобраз Бога, грунтуючыся на чутках. Трэба ісці шукаць боскага Настаўніка, і ісці туды, дзе Ён жыве. Пытанне 2-ух вучняў да Езуса "Дзе Ты жывеш ?" (параўн.: Ян 1, 38) мае моцны духоўны сэнс: выказвае жаданне даведацца, дзе жыве Настаўнік, каб быць разам з Ім. Жыццё верай заключаецца ў моцным жаданні быць з Панам, і таму з'яўляецца пастаянным пошукам месца, дзе Ён жыве. Гэта значыць, што мы пакліканы перавысіць руцінную і звычайную рэлігійнасць, ажыўляючы сустрэчу з Езусам у малітве, у разважанні над Божым словам і ў прыняцці сакрамантаў, каб быць з Ім і прыносіць плён, дзякуючы Яго дапамозе і Яго ласцы. Шукаць Езуса, сустрэцца з Ім – гэта шлях. Шукаць Езуса, сустрэць Яго, ісці за Ім – вось які гэта шлях.*

*Няхай Панна Марыя падтрымлівае нас у гэтай паставе ісці за Хрыстом, каб ісці і застацца там, дзе Ён жыве, каб слухаць Яго Слова жыцця, каб далучыцца да Таго, які бярэ на сябе грахі свету, каб знайсці ў Ім надзею і духоўны запал.*

*Фрагмент прамовы падчас сустрэчы з вернікамі на малітве "Анёл Панскі", 14.01.2018*

*ПРАВЕР СЯБЕ!*

## Віктарына на тэму: "Што я ведаю пра манаскае жыццё?"

**Кансэкраваныя асобы шмат у чым застаюцца для свецкіх загадкай. Можа здавацца, што манахі і манахіні закрытыя ад людзей, але насамрэч яны проста імкнуцца засяродзіцца на найважнейшым у жыцці. Ёсць нагода задумацца, што ведаем пра тых, хто штодня моліцца за нас Богу.**

**1. Да якой манаскай супольнасці належаў вядомы італьянскі кампазітар, скрыпач-віртуоз Антоніа Вівальдзі?**
А) капуцыны,
Б) францысканцы,
В) міхаліты.

**2. Які ордэн мае неафіцыйную назву "Псы Гасподнія"?**
А) езуіты,
Б) палатыны,
В) дамініканцы.

**3. Што такое клаўзура?**
А) закрытая частка манаскага дома ці кляштара,
Б) манаскае правіла, якое абмяжоўвае кантакты членаў ордэна са свецкімі асобамі.

**4. Злучы выяву манахіні з назвай кангрэгацыі, да якой яна належыць** *(адрозным знакам з'яўляецца хабіт).*









салезіянка — бенедыкцінка — францысканка — кармэлітка

**5. Ці могуць людзі жыць згодна з манаскай традыцыяй у свецкім асяроддзі?**
А) так,
Б) не.

*Адказы глядзі на с. 6*




◆ *Для папы Францішка прыярытэтамі ў 2018 годзе будуць правы і патрэбы імігрантаў і бежанцаў, прысвечаны моладзі Сінод Біскупаў, а таксама далейшая рэструктурызацыя Рымскай курыі. Пантыфік вырушыць у 6-дзённае падарожжа ў Чылі і Перу. На сёння Апостальская Сталіца не пацвердзіла ніякіх іншых папскіх пілігрымак, запланаваных на бягучы год, хаця ватыканскія службовыя асобы паведамілі, што амаль дакладна Святы Айцец накіруецца ў Дублін пад канец жніўня на Сусветную сустрэчу сем'яў. Пацвердзілі таксама, што разглядаецца падарожжа ў Літву, Латвію і Эстонію. Не выключаюць і пілігрымкі ў Афрыку.*

◆ *Святы Айцец Францішак пабываў у адным з аддзяленняў ватыканскай педыятрычнай лякарні “Bambino Gesù” (“Дзіцятка Езус”), што размешчана ў прыморскім мястэчку Палідора. Пантыфік павітаўся з маленькімі пацыентамі, а таксама звярнуўся са словамі ўцехі да бацькоў, якія суправаджаюць сваіх дзяцей у балючых выпрабаваннях. У Палідора размешчана аддзяленне хуткай дапамогі і бальнічныя аддзяленні. Акрамя таго, тут аказваюцца медыцынскія паслугі ў рэжыме дзённага стацыянара і амбулаторныя працэдуры.*

◆ *Ажно 1,2 млн асоб прынялі ўдзел у арганізаваных у 644-ох польскіх мясцовасцях Шэсцях Трох Каралёў. Сёлетняму мерапрыемству спадарожнічаў збор пад дэвізам “Мудрацы для Усходу”. Даход будзе пералічаны на карысць навучальных устаноў ва Украіне і ў Літве, а таксама пляцоўкі, якая аказвае дапамогу маладым людзям з Усходу, што знаходзяцца на тэрыторыі Польшчы. Ідэя Шэсця Трох Каралёў вырасла з калядных містэрый, супольна падрыхтаваных вучнямі і бацькамі варшаўскай школы для хлопцаў “Żagle” (“Ветразі”).*

◆ *Біскупы ЗША вырашылі пачаць працэс беатыфікацыі Чорнага Лася (1863–1950 гг.) – легендарнага індзейца-дакота з племені сіу. У маладым узросце ён удзельнічаў у ваеннай бітве з амерыканцамі, выступаў у цыркавых прадстаўленнях. Спярша індзеец практыкаваў традыцыйныя вераванні: духоўнасць была паганская. Пасля смерці першай жонкі ён прыняў хрост у Касцёле і ўзяў сабе імя Нікалас. Катэхізаваў суайчыннікаў, прыводзячы іх сотнямі да хрышчэння.*

◆ *З 27 па 30 студзеня ва Украінскім каталіцкім універсітэце будзе праводзіцца школа “Львоў – горад дыялогу”. Яна пройдзе ў рамках магістарскай праграмы “Экуменічныя навукі: хрысціянства ў дыялогу з сусветнымі рэлігіямі, грамадствам і СМІ”. У плане прадугледжаны лекцыі, дыскусіі, прэзентацыі, абмеркаванні, экскурсіі і наведванне рэлігійных арганізацый. Мэта школы палягае на тым, каб пазнаёміць удзельнікаў з сітуацыяй хрысціянскага адзінства ва Украіне і, у прыватнасці, Львове. Арганізатар мерапрыемстваў – Інстытут экуменічных студый УКУ.*

*credo.pro; pch24.pl; niedziela.pl*

# Дапамагчы ўбачыць свет кончыкамі пальцаў

● працяг са с. 1




## “ЦЁПЛЫЯ КНІГІ”

Мэта дабрачыннага праекта, у які ўцягнуты маладыя валанцёры, – дапамагчы пазнаць навакольны свет маленькім хлопчыкам і дзяўчынкам, пазбаўленым магчымасці бачыць. Асноўным натхняльнікам і кіраўніком дабрачыннай акцыі на карысць дзяцей з парушэннямі зроку з'яўляецца педагог дадатковай адукацыі Дзмітрый Трафімаў. Ён адзначае, што ідэя стварэння незвычайных кніг з'явілася пасля наведвання прадпрыемства “БелТІЗ”, дзе вучні пазнаёміліся з невідушчымі супрацоўнікамі.



***«Гэта была свайго роду экскурсія з заплюшчанымі вачыма. Падчас яе дзецям прапанавалі надзець адмысловыя павязкі і паспрабаваць падняцца на некалькі паверхаў, каб адчуць, як успрымаюць свет людзі з парушэннямі зроку,*** – распавядае спадар Дзмітрый. – ***Чарговым крокам да замацавання ідэі стаў праект «Цёплыя кнігі», ініцыяваны супрацоўнікамі бібліятэчнай сістэмы Гродна. Ён палягае на стварэнні кніг высокай тактыльнасці для дзяцей з асаблівасцямі зроку. Асобнікі мяккія, з аб'ёмнымі малюнкамі жывёл, геаметрычных фігур, гароднiны і садавіны. У такіх кнігах карцінкі дапаўняюцца простымі вершамі, напісанымі Брайлем – асаблівым шрыфтам, з дапамогай якога чытаюць людзі з парушэннямі зроку».***

У межах праекта была створана першая тактыльная кніга “Лясныя звераняты”. Педагог распавядае, што над асобнікам давялося сур'ёзна папрацаваць: старанна распрацоўваўся макет кожнай старонкі для кнігі, падбіраліся матэрыялы. ***«Падчас працы было шмат нюансаў, паколькі сапраўднае тактыльнае выданне павінна стварацца зыходзячы з адмысловых правіл і стандартаў. Мы ведалі, што гэтую кнігу будуць чытаць не вачыма, а рукамі, у гэтым і заключалася асноўная складанасць. Было вельмі цяжка ўявіць, што адчувае чалавек з іншымі магчымасцямі ўспрымання, і як зрабіць так, каб кніга стала сапраўды зразумелай для дзіцяці з асаблівасцямі зроку,*** – падкрэслівае спадар Дзмітрый. – ***Увогуле, перад тым, як зшыць нейкую дэталь ці фігуру жывёлы, мы звярталіся за кансультацыяй да спецыялістаў. Яны растлумачылі, што асноўная задача тактыльнай кнігі – быць максімальна дакладнай, каб дзіця змагло яе прамацаць і такім чынам прачытаць. Напрыклад, дзеці не разумеюць накладання аб'екта на аб'ект: лапы, якія складзены на жываце, – дрэнны варыянт. Трэба, каб жывёла была адлюстравана ў натуральнай позе, таму у нашай кніжцы мядзведзь стаіць на 4-ох лапах. Кожную можна памацаць рукамі. Старонкі тактыльнай кнігі павінны быць прыемнымі навобмацак, з невялікай колькасцю прадметаў, каб дзіця магло сканцэнтраваць увагу на галоўным, не адцягваючыся на другарадныя дэталі».***

## СКЛАДАНАЯ ТЭХНАЛОГІЯ



Педагог падкрэслівае, што падчас працы над тактыльнай кнігай трэба таксама паклапаціцца пра бяспеку. Пры стварэнні фігур і дэталей нельга выкарыстоўваць колючыя, вострыя ці рэжучыя матэрыялы, трэба пазбягаць яркіх фарбаў. Перавага аддаецца такім відам тканіны, як мех, воўна, шоўк. Пры вырабе таксама выкарыстоўваецца скура, гузікі, пёры.

Спадар Дзмітрый адзначае, што перш чым кніга патрапіць у рукі дзяцей, яе пратэсціруе Станіслава Аляновіч з абласной арганізацыі Беларускага таварыства інвалідаў па зроку. Жанчына “вывучыць” кожную старонку, выкажа свае заўвагі і парады. Гэта ўсё робіцца дзеля таго, каб зрабіць выданне карысным, каб маленькія чытачы змаглі без цяжкасцей арыентавацца ў яго змесце.

“Цёплыя кнігі” – не адзіны дабрачынны праект, які рэалізуецца ў Гродзенскай СШ № 35. Тут заняліся вельмі карпатлівай працай па стварэнні кніг, надрукаваных шрыфтам Брайля. Тэкст у іх – у 2-ух варыянтах: надрукаваны буйным шрыфтам, каб яго маглі чытаць тыя, хто слаба бачыць, і шрыфтам Брайля для тых, хто зусім пазбаўлены зроку.

***«Шрыфт набіваецца ўручную. Гэта скрупулёзная і сапраўды ювелірная праца,*** – распавядае спадар Дзмітрый. – ***Я бяру ліст спецыяльнай шчыльнай паперы, замацоўваю яго ў прыборы, які ўяўляе сабой дзве металічныя пласціны, і раблю праколы вострым грыфелем. Пісаць шрыфтам Брайля даволі складана, бо літары набіваюцца ў люстраным адбітку: літара «а» абазначаецца адной кропкай у верхнім левым куце, але калі мы хочам яе напісаць, трэба зрабіць пракол у правым».***

Зараз у школе захоўваецца больш за дзясятак кніг, створаных такім чынам. У асноўным гэта казкі народаў свету, надрукаваныя ў скарочаным варыянце.

## ПАКІНУЦЬ ПАСЛЯ СЯБЕ НЕШТА ДОБРАЕ

У працу па стварэнні кніг для невідушчых дзяцей педагог Дзмітрый Трафімаў заангажаваў каманду вучняў старэйшых класаў. Сярод валанцёраў – маладыя вернікі парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Гродна-Паўднёвы). Дзяўчаты, адказваючы на пытанне пра тое, навошта яны прыйшлі ў дабрачынны праект, гавораць, што перш за ўсё хочуць дапамагчы дзецям, падарыць ім часцінку свайго цяпла і дабрыні.

***«Раней я рэдка задумвалася аб тым, што побач з намі ёсць людзі, для якіх пазнанне навакольнага свету – сапраўды нялёгкая задача,*** – гаворыць Вераніка Нанкевіч. – ***Зараз я вельмі цешуся, што магу дапамагаць рабіць недасяжнае дасяжным. Наш дабрачынны праект – гэта па-сапраўднаму вялікая справа. Дзякуючы яму ў дзяцей ёсць магчымасць не проста чытаць «сухія» кнігі, набраныя шрыфтам Брайля, але навобмацак знаёміцца з пушыстым катом, кучаравым баранчыкам, кудлатым мядзведзем. Такім чынам казка літаральна ажывае на кончыках іх пальцаў».***

Іншая валанцёрка Ксенія Рушніцкая распавядае, што ўдзел у стварэнні тактыльнай кнігі стаў для яе сапраўды хвалюючым, дапамог адкрыць у сабе зусім новыя чалавечыя якасці, такія як спагадлівасць і чуласць у адносінах да людзей. ***«Я старалася не проста шыць фігуркі і замацоўваць іх на тканіне, але ўкладваць у гэтую працу пазітыўныя эмоцыі, каб чалавек, які будзе перагортваць старонкі кнігі, адчуў тую любоў і клопат, з якім яна стваралася»,*** – адзначае Ксенія.

Дзяўчаты гавораць, што і надалей будуць займацца важнай і патрэбнай справай. У будучыні плануюць ствараць больш такіх кніг і перадаць іх у спецыялізаваную бібліятэку. Таксама валанцёры разам са сваім педагогам выношваюць цікавую ідэю: падчас Дыяцэзіяльнага дня дзіцяці правесці адмысловы майстар-клас па стварэнні тактыльнай кнігі для дзяцей, у аснову якой будзе пакладзена біблейская гісторыя.

*Кінга Красіцкая*

# Душпастырская паслуга мае выключна евангелічнае вымярэнне!



***У першыя дні студзеня, пасля амаль 27-мі гадоў паслугі ў Касцёле на Гродзеншчыне, Беларусь пакінуў польскі святар кс. доктар Раман Катлімоўскі – шматгадовы выкладчык Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне, ініцыятар разнастайных душпастырскіх акцый, выдатны прапаведнік, поўнасцю аддадзены святарскай паслузе і заклапочаны будучыняй Касцёла. Кс. Раман быў звязаны з Гродзенскай дыяцэзіяй з моманту яе ўзнікнення: стаяў ля вытокаў стварэння касцёльных структур, з'яўляўся сведкам мноства гістарычных падзей. У інтэрв'ю для "Слова Жыцця" святар успамінае пра сваю паслугу ў Беларусі і, ад'язджаючы ў родныя мясціны, складае выразныя словы пажаданняў Касцёлу на Гродзеншчыне.***

**– Ксёндз Раман, ці памятаеце Вы, калі прыехалі ў Беларусь?**

– Я прыехаў у Беларусь 20 сакавіка 1990 года разам з кс. прафесарам Ежы Лявінскім. Ён застаўся тады ў Гродне разам з першым біскупам у Беларусі, сённяшнім арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам. Мяне ж скіравалі ў парафію св. Вацлава ў Ваўкавыску, дзе я служыў каля 3-ох месяцаў. Там спазнаў цудоўную набожнасць і вялікую сардэчнасць людзей.

Затым біскуп Эдвард Матэрскі, які скіраваў мяне ў Ваўкавыск, прапанаваў паехаць у Вільнюс у парафію Святога Духа, дзе пробашчам быў кс. Аляксандр Кашкевіч. Там я служыў больш за 10 месяцаў. Гэта быў цудоўны час. Я ўбачыў прыгажосць маладога Касцёла, які праслаўляе Пана, нягледзячы на панаючую на працягу многіх гадоў атэістычную сістэму, што вымывала ўсе евангельскія, больш таго, нават сямейныя каштоўнасці з пакалення, якое "кармілі" бязбожнай ідэалогіяй, што абсалютна супярэчыць Усемагутнаму і Касцёлу.

Калі з Польшчы я вярнуўся ў Вільнюс, распачалося зусім іншае жыццё. Было вырашана, што паеду разам з новапрызначаным біскупам у Гродна. Біскуп Матэрскі даў дазвол на гэта, паколькі ён быў маім ардынарыем. Памятаю, як пастыр тады вельмі слушна сказаў: "Ты яшчэ замалады". І сапраўды, калі я прыехаў у Гродна, зразумеў гэтыя словы. Аднак дзякуючы зычлівасці старэйшых святароў і акружэння, дзякуючы іх вопыту і падтрымцы я стараўся добра рэалізоўваць свае абавязкі.

**– Шмат гадоў Вы выкладалі ў духоўнай семінарыі ў Гродне. Якімі прынцыпамі кіраваліся ў нялёгкай паслузе выхавання маладога пакалення святароў?**

– Пасаду прэфекта і выкладчыка літургікі ў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі мне прапанаваў біскуп Аляксандр. Шчыра кажучы, я адмаўляўся ад гэтых функцый. А сёння дзякую Пану Богу, што Ён карыстаўся мною для фармацыі новых пакаленняў святароў, якіх з "кузні" гродзенскай семінарыі выйшла ўжо больш за 200. Я вельмі часта паўтараў ім тады: "Выносьце з семінарыі самае прыгожае, святарскае, людскае, бо тады вы будзеце аўтэнтычнымі ў перадачы Евангелля, а таксама ў абвяшчэнні хрысціянскай культуры і традыцыі Касцёла".

Гэты выхаваўчы этап працягваўся 10 гадоў. З 2001 года, згодна з пастановай біскупа Аляксандра, я перастаў быць прэфектам, але надалей выкладаў у семінарыі. На працягу гэтых гадоў праводзіў заняткі ў розных абласцях: катэхетыцы, Каталіцкім сацыяльным вучэнні, тэалогіі душпастырства, а пасля абароны кандыдацкай – таксама ў літургіцы.

**– Якія моманты за час прабывання ў Беларусі асабліва запалі ў Вашу памяць?**

– Гаворачы пра найлепшыя моманты майго побыту ў Гродне, узгадваю 1995 год – першыя святарскія пасвячэнні маіх студэнтаў. Гэта была цудоўная падзея. Мясцовы Касцёл атрымаў 2-ух новых святароў: сённяшняга дапаможнага біскупа Гродзенскай дыяцэзіі Юзафа Станеўскага і пробашча парафіі Святой Сям'і ў Лідзе кс. каноніка Юзафа Ганьчыца. Гэта быў першы плод семінарыйнай фармацыі. Памятаю, у катэдры тады сабралася вельмі шмат людзей…

Непаўторнымі сталі і кожныя чарговыя пасвячэнні, якія асабіста для мяне заўсёды з'яўляліся вялікай радасцю. Я з прыемнасцю рыхтаваў літургічныя каментарыі на гэтыя ўрачыстасці, прагнучы ашчасліваць людскія сэрцы, паказаць вернікам прыгажосць паклікання святара, які з'яўляецца сувяззю паміж Богам і чалавекам.

Памятаю таксама дзень прызначэння першага гродзенскага біскупа Аляксандра Кашкевіча. Гэта было 13 красавіка 1991 года. Я знаходзіўся тады ў Польшчы. Ведаю, што прыняцце рашэння для біскупа Кашкевіча не было лёгкім, бо ён вельмі просты і сціплы чалавек. Ён разумеў веліч гэтага абавязку і ўсведамляў, што сустрэне на сваім шляху шмат цяжкасцей.

Вялізнае ўражанне на мяне аказала ўрачыстасць біскупскай сакры 23 мая 1991 года. Памятаю і падрыхтоўку, і людзей, якія цешыліся з заснавання новай дыяцэзіі і першых у Гродне біскупскіх пасвячэнняў.

**– Ці можна сказаць, што вера людзей на нашых землях асаблівая, адрозная ад іншых?**

– Жывучы ў Беларусі, я захапляўся набожнасцю вернікаў. Тут, у Гродне, людзі жывуць на стыку культур Усходу і Захаду. Жыхары горада над Нёманам робяць усё, каб традыцыю Рыма-каталіцкага Касцёла прышчапіць сваім дзецям і ўнукам. Большасць з тых, хто перажыў праследаванне, ужо адышлі да Пана. Гэта былі вельмі смелыя і загартаваныя людзі. Аднак трэба адзначыць, што ў сынах і дочках бачны працяг іх стылю жыцця і клопату пра Касцёл. Яны з'яўляюцца тымі жамчужынамі, скарбам, з якога можна зачарпнуць у любы момант, калі толькі гэтага захочацца. Моцай Касцёла над Нёманам з'яўляецца таксама марыйнасць, таму што вернікі ўсім сэрцам любяць Найсвяцейшую Панну і даручаюць Яе абароне ўсе свае радасці і смуткі.

З перспектывы часу магу сказаць, што я вельмі шчаслівы, бо меў ласку пазнаць гэты Касцёл. Мне часта выпадала гаварыць, што ён знаходзіцца ў месцы зліцця Нёмана і Віліі. Гэта прыгожы Касцёл, які трывае ўжо больш за 600 гадоў *(гаворка пра Віленскую архідыяцэзію – **заўв. аўт.**)* і мае свае асаблівыя ўрачыстыя звычаі і традыцыі.

**– Якія словы Вам хацелася б сказаць на развітанне з Беларуссю?**

– Пасля гэтых амаль 27-мі гадоў паслугі я выязджаю ў сваю родную Радамскую дыяцэзію. Шчыра кажучы, ні на каго не трымаю крыўды, нават на тых, з-за каго не магу працягваць служэнне ў Касцёле ў Беларусі. Ад усяго сэрца малюся, каб людзі, якія ставяць перашкоды не толькі мне, але і іншым святарам, зразумелі, што душпастырская паслуга мае выключна евангелічнае вымярэнне: фарміраваць чалавека як добрага хрысціяніна і грамадзяніна. Кожны ксёндз навучае, што людзі шчыра і сумленна павінны здзяйсняць рэлігійныя практыкі і сацыяльныя абавязкі.

Цешуся, што гэтае вымярэнне быцця добрым хрысціянінам і чалавекам вельмі выразна падкрэсліваецца біскупам Аляксандрам. Я вельмі ўдзячны яму за давер, за яго высакародную паставу. Жадаю, каб ксяндзы Гродзенскай дыяцэзіі былі такімі ж, як наш біскуп: просты, сардэчны, які вельмі клапоціцца аб узроўні рэлігійнага жыцця і захапляецца Касцёлам.

Дзякую таксама ўсім святарам, якія неаднаразова моцна мяне падтрымлівалі, манаскім сёстрам, для якіх амаль на працягу 12-ці гадоў з дапамогай айцоў францысканцаў я быў правадніком у т. зв. пастаяннай фармацыі.

Хацелася б, каб Гродзенская дыяцэзія, у якой у мінулым годзе адбылася гістарычная падзея – распачацце I Дыяцэзіяльнага сінода пад дэвізам "Жыць Евангеллем", надалей развівалася і духоўна ўзрастала, каб кожная сям'я і ўсе духоўныя асобы сапраўды жылі Евангеллем, былі ахоплены Божым словам праз катэхезу, гаміліі, фармацыйныя і малітоўныя сустрэчы. Няхай Гродзенскі Касцёл надалей трывае ў рытме дароў Святога Духа. Няхай ім заўсёды апекуецца галоўная заступніца – Вастрабрамская Маці Міласэрнасці, а таксама св. каралевіч Казімір і св. Максімільян Марыя Кольбэ, якія некалі хадзілі вуліцамі гэтага прыгожага горада над Нёманам. Магу смела сказаць, што Касцёл на Гродзеншчыне мае добры фундамент, які, усё ж, трэба нястомна ўзмацняць, каб ніякія цёмныя хвалі не змаглі яму нашкодзіць.

*Кс. Юрый Марціновіч*

***Кс. Раман Катлімоўскі***

*Нарадзіўся 07.08.1963 года ў Грабоўскай Волі (Польшча).*
*Закончыў Вышэйшую духоўную семінарыю ў Сандаміры і Радаме.*
*Святарскія пасвячэнні атрымаў 28.05.1988 года*
*з рук біскупа Эдварда Матэрскага.*
*У 1988–1990 гадах выконваў душпастырскую паслугу ў Радаме (Польшча),*
*у 1990 годзе – у Ваўкавыску (Беларусь), у 1990–1991 гадах – у Вільнюсе (Літва).*
*З 1991 года быў выкладчыкам і мадэратарам*
*у Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне,*
*з 1995 года – рэдактарам літургічнага календара Гродзенскай дыяцэзіі.*
*У 2004 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю*
*па тэалогіі літургіі ў Каталіцкім універсітэце ў Любліне (Польшча).*



*Кс. Раман Катлімоўскі ў акружэнні клерыкаў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі, будучых святароў (Вострая Брама, Літва)*




**CatholicNews.by**

***Пасол Беларусі пры Святым Пасадзе наведаў Ватыкан***

***Пасол Сяргей Алейнік прыняў удзел у аўдыенцыі для дыпламатычнага корпуса, акрэдытаванага пры Апостальскай Сталіцы.***

*У рамках візіту адбылася кароткая размова з Пантыфікам. Былі абмеркаваны актуальныя пытанні далейшага развіцця двухбаковага супрацоўніцтва, узаемадзеяння ў міжнародных арганізацыях, а таксама сітуацыі ў рэгіёне.*

*Падчас рабочай сустрэчы з прэфектам Ватыканскай апостальскай бібліятэкі кс. Чэзарэ Пасіні беларускі дыпламат перадаў у дар Ватыканскай бібліятэцы ад Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі факсімільнае выданне "Кніжная спадчына Францыска Скарыны".*




***Папа Францішак запрасіў бедных у цырк***

***Больш за 2 000 патрабуючых, бяздомных, бежанцаў і зняволеных наведалі прадстаўленне, арганізаванае пры супрацоўніцтве з Цыркам Медрана.***

*У ходзе нядаўняй размовы з акцёрамі трупы падчас агульнай аўдыенцыі Святы Айцец выказаў ім удзячнасць за мастацтва цырка і падзякаваў за прыгажосць, якую яны нясуць людзям. Пачуўшы гэта, некаторыя дабрачынцы выйшлі з ініцыятывай, якую назвалі "Circo Solidarietà" ("Цырк салідарнасці"), і купілі для бедных усе білеты на прадстаўленне. Побач з цыркам-шапіто была адкрыта мабільная амбулаторыя ватыканскай медслужбы, даючы запрошаным магчымасць абследавацца.*




***Выратаваны архіў гродзенскіх брыгітак***

***Сярод захаваных дакументаў – статуты ордэна, падрабязныя рэгламенты жыцця манахінь, зборнікі малітваў і спеваў, інвентары маёмасці, што належала кляштару.***

*Каштоўныя дакументы 2 гады таму выявіла ў Гродне прафесар Марыя Каламайска-Саед з Польшчы. Іх удалося захаваць дзякуючы ўдзелу Музея Падляшша ў Беластоку.*

*Выратаваныя дакументы перададуць у Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей. У канцы 2018 года там плануецца правядзенне выстаўкі з экспазіцыяй архіва брыгітак.*




### *Як сябе паводзіць, калі працоўныя абавязкі медыцынскага работніка супярэчаць навуцы Касцёла?*

*Этычны кодэкс лекара абавязвае перад дзяржавай. Але калі нейкі аспект гэтага кодэксу супярэчыць Божаму закону, то ўрач католік не абавязаны яго прытрымлівацца.*

*Нярэдка праціўнікі якіх-небудзь пярэчанняў па меркаваннях сумлення ў медыцыне спасылаюцца на абавязак лекара не навязваць свае рэлігійныя перакананні ў сферы лячэння. Але тут трэба заўважыць, што гэта зусім не супярэчыць праву ўрача адмовіць і, напрыклад, не выпісаць у рэцэпце кантрацэптыў.*

*Гарманальныя прэпараты, якія прымяняюцца з тэрапеўтычнымі мэтамі (нават калі яны маюць пабочны кантрацэптыўны эфект), з'яўляюцца лячэннем. Калі ж тыя самыя прэпараты прапісваюць пацыентам з адзінай мэтай пазбегнуць зачацця, то гэта не адносіцца ні да дыягностыкі, ні да тэрапіі. Значыць, ні клятва Гіпакрата, ні этычны кодэкс не абавязваюць гінеколага іх прызначаць.*

*Трэба памятаць, што ніякія іншыя непрафесійныя матывы тут ні пры чым, паколькі разнастайныя навуковыя даследаванні даказваюць, што кантрацэптыўныя прэпараты не з'яўляюцца бясшкоднымі з медыцынскага пункту гледжання, а часам маюць і абартыўнае дзеянне. Варта адмовіцца ад супрацоўніцтва з любой фізічнай або юрыдычнай асобай, калі яна прымушае да дзеянняў, якія супярэчаць этычным прынцыпам, прафесійнаму абавязку або закону.*

*Кс. Алег Кудэрка*
***Паводле grodnensis.by***

# Глыбіня традыцый і моц вялікай сям'і Паспяшальскіх





*Адна з найбольш вядомых у Польшчы музыкальных сем'яў калядавала ў Гродне. Аркестр, які складаецца з 16-ці прадстаўнікоў 3-ох пакаленняў музыкантаў, 12 студзеня зайграў у парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля.*

Падчас сямейнага калядавання выступілі чацвёра братоў Паспяшальскіх – Ян, Марцін, Караль і Мацвей – іх жонкі, дзеці разам з сужэнцамі, а таксама ўнукі. Музыканты заспявалі прыгожыя пастаралкі і калядкі ў аўтарскай апрацоўцы: ад класічных версій праз фальклорны клімат да джазавых і рокавых аранжыровак. Адным з найважнейшых вымярэнняў канцэрта была папулярызацыя хрысціянскіх і сямейных каштоўнасцей.

Як адзначыў Мацвей Паспяшальскі, калядкі спадарожнічалі сям'і заўсёды. ***"Нашае калядаванне пачалося з музіцыравання дома. З года ў год у перыяд свят Божага Нараджэння мы ігралі і спявалі тыя самыя калядкі, а пасля пачалі іх далікатна перарабляць. У пэўны момант з'явіліся першыя «ўсходы» аранжыровак,*** – гаворыць музыкант. – ***Мама, слухаючы наш сямейны спеў, параіла падрыхтаваць асобны рэпертуар, каб захаваць гэты скарб. Мы пачалі камбінаваць, каб стварыць штосьці сапраўды арыгінальнае. Кожны рабіў тое, што гучыць у яго душы і ляжыць на сэрцы. У рэзультаце на пачатку 1990-х мы запісалі дыск з калядкамі. Часткі нашага сённяшняга саставу ў той час яшчэ нават не было на свеце..."***.

Разам са з'яўленнем чарговых членаў сям'і калектыў павялічваўся. З часам дзеці выраслі ў прафесійных артыстаў. Многія навучыліся іграць на некалькіх інструментах, таму падчас канцэрта можна пачуць як духавы аркестр, так і камерны, а нават джаз бэнд. ***"Кожны з нас па прафесіі музыкант і іграе ў разнастайных калектывах: Міхал Урбаняк, «Arka Noego», «Zakopower», «Raz Dwa Trzy», «Dzieci z Brodą», тэатр «Gardzienice»... Але раз у год мы сустракаемся, каб вырушыць у міжнародны тур, зайграць канцэрты і прадэманстраваць, што прыгожая польская традыцыя калядавання надалей жывe"***, – падсумоўвае Мацвей Паспяшальскі.

Ян Паспяшальскі – музыкант, журналіст, адзін з заснавальнікаў і прадстаўнік самага старэйшага пакалення калектыву – падкрэслівае, што ў сённяшнія часы дэмаграфічнага крызісу канцэрты аркестра, што складаецца з членаў шматдзетнай сям'і, якую яднае вера, захапленне і пашана да традыцыі, з'яўляюцца пераканаўчым сведчаннем. ***"Усё пачынаецца ў сям'і: перадача веры, патрыятызму і звычаяў. Чым большая сям'я, тым больш і свят, Дзён нараджэння, хрэсьбін, інакш кажучы, больш нагод, каб быць супольнасцю. Мы разам молімся, падарожнічаем, святкуем. І лічым гэта чымсьці абсалютна натуральным. Дзіўныя, хутчэй, тыя сем'і, якія так не жывуць***, – дзеліцца Ян Паспяшальскі. – ***Падчас сваіх канцэртаў спяваем калядкі ва ўласных, часам незвычайных апрацоўках – ад народнай польскай музыкі да карыбскіх рытмаў, ад паланэза да фанкавага гучання. Так мы хочам данесці, што Езус Хрыстус як малое Дзіцятка прыйшоў у свет, каб вызваліць нас ад слабасці. І гэта добрая навіна. Штогод нанова ўсё перажываць – цудоўна, хоць і няпроста, таму што трэба стаць у праўдзе перад сабой. Для нас найважнейшым падчас канцэртаў і сустрэч з людзьмі з'яўляецца магчымасць адчуць, што гэта не проста рытуал. Мы не адышлі ад таго, што было на самым пачатку – ад сустрэчы з цудоўнай традыцыяй, з хрысціянствам і верай, без якой чалавек не здольны вытрываць. Важна таксама тое, што мы змаглі перадаць нашым дзецям сямейныя традыцыі, але не адзін у адзін, а з дадаткам чагосьці ад сябе. Кожны дакладвае сваю цаглінку. Добрая яна ці дрэнная?.. Калі пратрымаецца, яе ацэніць свет. Найважнейшае, што гэты ланцужок, які мы атрымалі ў спадчыну як пэўны тып дэпазіту, будзе трываць. Можа, у розных формах, аднак яго сутнасць будзе захавана"***.

Сёлетні канцэрт у Гродне – гэта ўжо 2-гі візіт Паспяшальскіх у Беларусь (у мінулы раз яны выступалі ў горадзе над Нёманам у 2016 годзе). У бягучым годзе паслухаць польскія калядкі ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля сабралася больш за 1,5 тысячы чалавек.

*Кінга Красіцкая*

# Адказы на пытанні тэматычнай віктарыны "Што я ведаю пра манаскае жыццё?"

**1 Б**

Антоніа Вівальдзі склаў манаскія абяцанні ў ордэне францысканцаў. Пасля святарскага пасвячэння атрымаў паслабленне ў справе цэлебрацыі св. Імшы па прычыне дрэннага стану здароўя (перажываў цяжкія прыступы астмы). Вышэйшае духоўнае кіраўніцтва дазволіла яму абмежавацца вычытваннем асаблівага малітоўнага правіла. Да канца жыцця музыкант не расставаўся ні з хабітам, ні з малітоўнікам.

**2 В**

Выраз "Псы Гасподнія" сугучны з лац. "Domini canes", чым і абумоўлена распаўсюджанне неафіцыйнай назвы ордэна дамініканцаў. Такім чынам падкрэсліваецца, што члены манаскай супольнасці аддана прысвячаюць сваё жыццё місіі ордэна – ахове веры Касцёла ад ерасі і прасвятленню чалавецтва праз прапаведаванне Добрай Навіны. А паходзіць назва супольнасці ад імя яе заснавальніка св. Дамініка дэ Гусмана Гарсеса.

**3 А, Б**

Паняцце "клаўзура" мае некалькі значэнняў. Па-першае, яно абазначае месца, дзе дазволена знаходзіцца толькі манахам. У клаўзуру не могуць уваходзіць асобы звонку, а асабліва іншага полу. Па-другое, гэта кананічныя рэкамендацыі, якія абмяжоўваюць камунікацыю манахаў з пабочнымі асобамі, а таксама правілы, якія акрэсліваюць час і маштаб камунікацыі ўнутры ордэна. Манахі і манахіні могуць выходзіць з клаўзуры толькі па вельмі важных прычынах, папярэдне атрымаўшы на гэта дазвол у настаяцеля супольнасці.

**4**

Францысканскі хабіт уяўляе сабой доўгую чорную сукенку, падпаясаную белай вяроўкай з вузламі, што нагадваюць аб складзеных абяцаннях. Зверху надзяваецца белая палярына.

Адрозненне хабіта бенедыкцінак – шырокія рукавы. Сясцёр супольнасці можна пазнаць па доўгім чорным вэлюме, які закрывае лоб і падбародак.

Кармэліткі носяць карычневы строй, перапаясаны скураным рамянём з пацеркамі на левым баку. Падчас літургіі на хабіт накладаецца доўгая белая накідка.

Цікава, што ў салезіянак няма строга акрэсленага манаскага ўбрання. Але ў большасці краін свету сёстры супольнасці носяць хабіт шэрага колеру з выразам на шыі, пад які надзяваецца белая вадалазка ці блузка.

**5 А**

У Касцёле, згодна з зацверджаным Святым Прастолам уставам, пры 8-мі каталіцкіх ордэнах – францысканцаў, дамініканцаў, аўгусцінцаў, сервітаў, кармэлітаў, мінімаў, трынітарыяў, прэманстрантаў – дзейнічаюць Трэція ордэны (першай лічыцца мужчынская галіна ордэна, другой – жаночая). Яны прызначаны для людзей, якія прагнуць скласці абяцанні і жыць у адпаведнасці з духоўнасцю манаскай супольнасці, але не жадаюць пакідаць свет. Члены Трэцяга ордэна называюцца тэрцыярыямі. Да іх ліку належалі, між іншым, св. Ян Марыя Віянэй і св. Кацярына Сіенская.

*Ангеліна Пакачайла*

НАВІНЫ



## Адкрыццё капліцы ў дзятлаўскай бальніцы

Найважнейшай падзеяй у апошнія тыдні стала адкрыццё капліцы Маці Божай з Лурд у раённай бальніцы ў Дзятлаве. Яе асвяціў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Па словах іерарха, жывая прысутнасць Бога ў такіх месцах вельмі важная і патрэбная: "і тады хвораму лягчэй ісці з Езусам на аперацыйны стол, а ўрачу – браць у рукі скальпель".

Пасля ўрачыстага адкрыцця капліцы ў актавай зале бальніцы дзеці прадставілі сабраным сцэнку аб Нараджэнні Хрыста. Прысутныя мелі магчымасць яшчэ раз наблізіць сабе гэтую вялікую таямніцу веры.

Да сёння трываюць аплаткавыя сустрэчы ў шматлікіх парафіях і супольнасцях дыяцэзіі. Гэта спрыяе аб'яднанню вернікаў у адну сям'ю Божых дзяцей. За ламаннем аплаткай, сярод іншых, у Гродне сабраліся супрацоўнікі дыяцэзіяльнай курыі, навучэнцы катэхетычных курсаў і міждыяцэзіяльных курсаў сямейнага жыцця, а ў Ваўкавыску – удзельнікі душпастырства чыгуначнікаў. Аплаткавая сустрэча для родных айцоў пірараў была арганізавана ў Шчучыне. У Лідзе кс. Юрый Бяганскі, вікарый парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, завітаў у радзільны дом, каб падзяліцца радасцю Нараджэння Пана з маці, якія ў гэты святочны час нарадзілі сваіх дзяцей.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Навучэнцы гродзенскай духоўнай семінарыі пад кіраўніцтвам прэфекта кс. Андрэя Лішко па традыцыі наведалі даўніх сяброў з радунскага дома-інтэрната, каб падзяліцца з імі радасцю перажывання ўрачыстасці Нараджэння Пана. Дзеці вельмі чакалі гасцей і, у сваю чаргу, падрыхтавалі для іх тэатральную пастаноўку аб Божым Нараджэнні.

### КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



Шмат калядных містэрый адбываецца па сённяшні дзень у шматлікіх парафіях Гродзенскай дыяцэзіі. З канцэртам у касцёле свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі выступіў дыяцэзіяльны хор "Cantate Domino". У яго выкананні прагучалі вядомыя калядкі і пастаралкі. Там жа прайшоў чарговы XV Фестываль калядных песень. Урачысты канцэрт арганнай і інструментальнай музыкі адбыўся ў касцёле св. Міхала Арханёла ў Навагрудку. У праграме былі выкананы калядныя музычныя творы шматлікіх народаў свету. У касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне акцёры тэатра св. Яна Паўла ІІ пад кіраўніцтвам Марыны Жыбартовіч-Протас прадставілі па традыцыі спектакль з нагоды Нараджэння Пана пад назвай "Для Бога няма нічога немагчымага".

Незвычайны "Музычны батл" адбыўся ў салезіянскім араторыі імя св. Яна Боско пры парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні. Перад журы, парафіянамі і гасцямі з вядомымі музычнымі хітамі выступілі 2 каманды ўдзельнікаў: прадстаўнікі пакалення 2000-х, куды ўвайшлі школьнікі і студэнты, і пакалення 1970-х, якое прэзентавалі саліст і група "ADMA". У выніку абедзве каманды набралі аднолькавую колькасць балаў – і перамагла дружба.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

---

**Паважаным Ксяндзам Юзафу Занеўскаму і Марэку Занеўскаму, Юзафу і Станіславу, а таксама родным**

у сувязі са смерцю брата, дзядулі і бацькі перасылаем словы шчырага жалю, выразы спачування і хрысціянскай падтрымкі. Яднаемся з Вамі ў малітве, раздзяляючы боль і смутак. Няхай міласэрны Бог прыме памерлага ў сваё Валадарства.

*Парафіяне са Свіслачы*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Яну Кучынскаму**

ў сувязі з адыходам у дом Пана мамы складаем выразы глыбокага спачування і жалю. Няхай душа памерлай цешыцца Божай прысутнасцю ў Яго Валадарстве.

*Парафіянкі гродзенскага катэдральнага касцёла*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Яну Кучынскаму**

ў сувязі з адыходам у вечнасць любімай мамы складаем словы шчырага спачування. Няхай міласэрны Бог як мага хутчэй прыме яе ў сваё Валадарства.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Яну Кучынскаму і ўсім родным**

у сувязі з адыходам да дому Пана мамы перасылаем словы шчырага спачування і жалю. Няхай міласэрны Бог дададзць Вам моцы, каб перажыць цяжар страты блізкага чалавека. Яднаемся з Вамі ў малітве за супакой душы. Няхай Пан прыме яе ў сваё Валадарства.

*Апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне, навучэнцы катэхетычных курсаў пры Аддзеле каталіцкага навучання і выхавання Гродзенскай курыі*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Яну Кучынскаму**

ў сувязі са смерцю мамы перасылаем спалучаныя з малітвай словы падтрымкі і жалю.

*Касцёльны камітэт з парафіі св. Яна Паўла ІІ у Смаргоні*

Словы сардэчнага спачування ў сувязі з адыходам у дом Айца мамы **паважанага Ксяндза Каноніка Яна Кучынскага** складае Клуб польскіх жанчын "Полька-Гродна". Памятаем, молімся.

---

АНОНСЫ

## АГУЛЬНАБЕЛАРУСКАЯ СУСТРЭЧА МОЛАДЗІ АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Мерапрыемства будзе праходзіць з 29 красавіка па 1 мая ў парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне (мікрараён Дзевятоўка).**

Тэма сустрэчы – "Не бойся, Марыя, бо знайшла ты ласку ў Пана" (Лк 1, 30).

*Спатканне пройдзе з нагоды аб'яўленага ў Беларусі душпастырскага Года моладзі.*

## БІБЛІЙНЫ КУРС "ЭМАУС" ПРОЙДЗЕ Ў ОРШЫ

**Заняткі па вывучэнні Бібліі запланаваны на 26–28 студзеня.**

Акрамя лекцый на курсе практыкуецца малітва Божым словам. Пажадана, каб перад прыездам удзельнікі прачыталі Кнігі Валадарстваў (Стары Запавет).

**З сабой неабходна мець:**

- Біблію;
- пісьмовыя прылады.

*Каб прыняць удзел у курсе, неабходны папярэдні запіс. Ён адкрыты да 24 студзеня. Запісацца можна па тэл.: (8 029) 713-02-33.*

*Адказныя за курс – доктар біблійнага багаслоўя Уладзіслаў Валаховіч і а. Аляксандр Жарнасек MIC.*

## ДЫЯЦЭЗІЯНЕ ЗАПРАШАЮЦЦА НА МАЛІТВУ ЗА МАНАСКІХ АСОБ!

**З нагоды Сусветнага дня кансэкраванага жыцця ў Гродзенскай дыяцэзіі арганізуецца супольная малітва падзякі лакальнага Касцёла за дар паклікання да манаства і аб усіх патрэбных ласках для манаскіх айцоў, сясцёр і братоў.**

*Св. Імша ў гэтай інтэнцыі будзе цэлебравана ў катэдральнай базіліцы св. Францішка Ксаверыя ў Гродне 1 лютага ў 12.00.*

## "ДУШЭЎНЫ КІРМАШ" АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Мерапрыемства з мэтай падтрымкі невылечна хворых пацыентаў анкалагічных аддзяленняў, пацыентаў хоспіса і бальніц сястрынскага догляду арганізуе сацыяльна-дабрачынная ўстанова "Цэнтр дапамогі жыццю". Падчас яго плануецца сабраць ахвяраванні для падапечных цэнтра.**

"Душэўны кірмаш" пройдзе 10 лютага з 12 да 14 гадзін у зале "Д" гандлёвага комплексу "Карона" (вул. Горкага, 91).

**У праграме мерапрыемства:**

- выступленне лепшых народных калектываў горада;
- гумарыстычная праграма;
- кірмаш аўтарскіх вырабаў ручной работы і шмат сюрпрызаў ад арганізатараў.

*З пытаннямі або ідэямі можна звяртацца на электронны адрас life-care-center@yandex.by.*

## XVII ДЭКАНАЛЬНЫ ПРАГЛЯД КАЛЯДАК І ПАСТАРАЛАК АДБУДЗЕЦЦА Ў САПОЦКІНЕ

**У бягучым годзе мерапрыемства, якое па традыцыі арганізоўваецца мясцовай парафіяй Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча, пройдзе 28 студзеня ў Доме культуры пад дэвізам: "Зорка, свяці! Калядка, ляці! Містэрыя няхай адбываецца...". Пачатак у 14.00.**

---

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**22 студзеня 1965 г.** – кс. Клеменс Лікшта, *проб. Быстрыца;*
**25 студзеня 1968 г.** – кс. Міхал Шымковіч, *проб. Ізабелін;*
**2 лютага 1932 г.** – кс. Юзаф Зноска, *проб. Стараельня;*
**3 лютага 1984 г.** – а. Войцех Навачык OMI, *проб. Навагрудак;*
**3 лютага 1952 г.** – кс. Эдмунд Пяткевіч, *проб. Вялікія Эйсманты;*
**4 лютага 1977 г.** – кс. Казімір Раслеўскі, *проб. Ваўкавыск;*
**4 лютага 1992 г.** – кс. Казімір Баневіч, *ген. вік., проб. Ліда.*

---

## Каляндар падзей

***24 студзеня***
*Успамін св. Францішка Сальскага, заступніка журналістаў і каталіцкай прэсы. Сусветны дзень сродкаў масавай інфармацыі. Заахвочваем да малітвы ў інтэнцыі каталіцкіх журналістаў.*

***25 студзеня***
*Свята навяртання св. апостала Паўла. Заканчэнне Тыдня малітвы аб еднасці хрысціян.*

***1 лютага***
*4-ая гадавіна біскупскай сакры кс. б-па Юзафа Станеўскага. Молімся ў інтэнцыі дапаможнага біскупа Гродзенскай дыяцэзіі.*

***2 лютага***
*Свята Ахвяравання Пана (МБ Грамнічнай).*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4".*
***Чарговы выпуск – 6 лютага.***

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Люты***

*Каб духавенства і вернікі дыяцэзіі старанна і адказна клапаціліся аб развіцці здаровай набожнасці і вернасці Папе ды навуцы Паўсюднага Касцёла.*

# Пра анёла



*Жыла звычайная дзяўчынка з добрымі вачыма і чулым сэрцам. I звалі яе Ангеліна. Яна хадзіла ў школу і добра вучылася, ва ўсім дапамагала маме. Дзяўчынка вельмі не любіла, калі аднакласнікі сварыліся паміж сабой, і заўсёды старалася іх памірыць. Калі сяброўкі пыталіся, ці спадабалася ёй сукенка з моднага часопіса, яна адказвала, што звяртае ўвагу не на тое, што моднае, але на тое, што прыгожае і сціплае.*

*– Якая ж ты дзіўная… – казалі дзяўчаты.*

*Затое Ангеліна заўважала бяздомных катоў і сабак. Яна не баялася, лашчыла іх і карміла. Заўважала, калі крыўдзілі меншых, і заўсёды бегла ім на дапамогу. Пры ўваходзе ў аўтобус падавала руку пажылым людзям, саступала ім месца.*

*– Якая ветлівая і ўважлівая дзяўчынка, – гаварылі людзі.*

*Аднойчы, калі ў школе пісалі сачыненне на тэму “Кім я хачу быць?”, Ангеліна занатавала коратка: “Хачу быць анёлам”.*

*– Паслухай, анёлам быць немагчыма, – пераконвала яе настаўніца.*

*– Усё магчыма, калі захацець, – стаяла на сваім Ангеліна.*

*Дома дзяўчынцы гэтае ж пытанне задала мама:*

*– Дачушка, скажы, якая прафесія табе па сэрцы? Кім бы хацела быць, калі вырасцеш?*

*– Анёлам, перш за ўсё анёлам, – з усмешкай адказвала дзяўчынка.*

*Набліжаліся святы Божага Нараджэння. Мама Ангеліны да позняга вечара затрымлівалася на працы. Дзяўчынка дастала з шафы касцюм анёла, які сама шыла па начах у сваім пакоі, каб ніхто не ўбачыў. Касцюм з белай тканіны са срэбнымі крыламі атрымаўся вельмі прыгожы. Дзяўчынка надзела яго і стала падобнай да сапраўднага анёла. Потым яна дастала прыхаваныя падарункі, купленыя за ўласна зароблены грошы.*

*Улетку Ангеліна збірала ягады: не толькі сабе, але і на продаж. І ў яе ахвотна куплялі, бо дорага не цаніла – прадавала значна танней за іншых. Зімою дзяўчынка займалася бісерапляценнем, рабіла прыгожыя рэчы з саломкі. Частку заробленых грошай яна адкладвала для тых людзей, якія маюць у іх патрэбу.*

*Калі дзяўчынка выйшла на вуліцу, быў ужо змрок. Усюды гарэлі агні, ялінка каля магазінаў пераліваліся рознакаляровымі гірляндамі. Людзі праходзілі побач і спыняліся, каб паглядзець на прыгожага анёла. Праз нейкі час Ангеліна падышла да невялікага дома, дзе жыла адзінокая жанчына з маленькай дачкой. Дзяўчынка зазірнула ў акно і ўбачыла, што дзіця дрэмле ў абдымку з плюшавым мядзведзем. Маці відаць не было. Мабыць, выйшла на некалькі хвілін з дому. Ангеліна націснула на ручку дзвярэй – яны аказаліся не зачынены. Дзяўчынка ціха ўвайшла і паклала каля малой лялькy са светлымі распушчанымі валасамі і 2 пліткі шакаладу: адну – дзяўчынцы, а другую – маме. “Няхай парадуюцца”, – падумала пра сябе Ангеліна.*

*І пайшла далей. Яна добра ведала куды. Зайшла ў двор, дзе жыла адна небагатая сям’я. І ўбачыла 2-ух маленькіх хлопчыкаў-блізнюкоў, якія ва ўсе вочы глядзелі на яе ў касцюме анёла.*

*– Дзеткі, вось вам падарункі, – сказала Ангеліна і працягнула ім 2 скруткі. У адным былі куртачка і штанікі, якія дзяўчынка перашыла са свайго адзення, а ў другім – слодычы і вялікія чырвоныя яблыкі. Хлопчыкі падзякавалі і радасна памчаліся дадому.*

*Прайшла Ангеліна яшчэ крыху і спынілася кала Божага храма. Яна чакала, што праз некалькі хвілін скончыцца Імша і будуць выходзіць людзі. Дзяўчынка ўважліва ўглядалася ў цемру. Нарэшце ў натоўпе яна ўбачыла старэнькую бабульку, якая з цяжкасцю ступаючы апіралася на драўляны кіёк. Ангеліна параўнялася з ёю. Павіншавала са святам, пажадала бабульцы добрага здароўя і падарыла новую палачку ды смачны пірог. Старая са здзіўленнем глядзела на дзяўчынку.*

*– Бярыце! – сказала Ангеліна. – Анёлу нельга адмаўляць.*

*І аддаўшы падарунак разгубленай жанчыне, пабегла дадому.*

*Дзяўчынка глянула на гадзіннік і, нават не зняўшы касцюма, пачала паспешна накрываць на стол. І толькі закончыла, паставіла вазон бэтлеемскай зоркай у падарунак маме, як на парозе паказалася стомленая жанчына.*

*– Мамачка, мый рукі і сядай за стол, – ласкава запрасіла дачка.*

*– Цябе не пазнаць, Ангеліна. Ты насамрэч мой добры анёл. Я вельмі рада, што ты ў мяне ёсць, – сказала жанчына і прытуліла да сябе дачку.*

*Ангеліна нічога не адказала. Яна была шчаслівая і ўпэўненая, што пры любой прафесіі і нават яшчэ не атрымаўшы яе можна быць анёлам тут, на зямлі.*

*Галіна Зданевіч, г. Ваўкавыск*

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Уладзіславу Сурвілу**

з нагоды Новага года жадаем здароўя, радасці, поспехаў у душпастырскай працы. Няхай Маці Божая адорвае патрэбнымі ласкамі, каб Вы праз усё жыццё служылі на карысць людзям і на Божую хвалу.

За ўсё аддзяч Вам, Божа!

*Члены касцёльнага хору і арганіст з парафіі Войстам*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Чэслаў Паўлюкевіч!**

З нагоды Дня нараджэння жадаем, каб Вы як душпастыр імкнуліся да мэты і пастаянна адкрывалі дар і сэнс паклікання. Няхай здароўе і энергія спадарожнічаюць Вам яшчэ на працягу многіх гадоў, прыносячы задавальненне і радасць ад таго, што ўдалося дасягнуць, і дадаючы стойкасці і цярплівасці ў здзяйсненні святарскай паслугі. Жадаем таксама ўсіх Божых дароў, апекі Найсвяцейшай Маці, сілы ў руках і чыстага агню ў сэрцы.

*Парафіяне з Росі*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Казлоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа. Няхай кожны дзень будзе напоўнены цеплынёй, радасцю і надзеяй, вера толькі ўзмацняецца і ўсё рэалізуецца дзякуючы дапамозе Пана і добрых людзей. Няхай Бог шчодра благаслаўляе, а Найсвяцейшая Маці спадарожнічае!

*Вернікі з капліцы ў Масалянах*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку**

з нагоды Дня нараджэння жадаем здароўя, шчасця і шмат радасці. Няхай кожная хвіліна жыцця будзе перапоўнена любоўю, а на твары заўсёды госціць усмешка. Няхай здзяйсняюцца мары і планы. Жадаем усяго, чаго Вы самі сабе жадаеце!

*Парафіяне з Казловічаў і супольнасць “Святая сям’я” з Верцялішкаў*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Валерыю Шэйгеравічу**

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: Божага благаслаўлення, моцнага здароўя, зычлівых людзей побач. Няхай кожны дзень прыносіць Вам сілы для душпастырскай працы, а супакой і радасць заўсёды госцяць у Вашым сэрцы. Няхай Святы Дух асвячае дарогу, па якой мы крочым разам з Вамі. Дзякуем за дабрыню, усмешку, малітву і працу ў нашай парафіі. Няхай міласэрны Айцец узнагародзіць Вас за гэта.

*Вернікі з касцёла св. Францішка Асізскага ў Свіслачы*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Генрыху Яблоньскаму**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус напаўняе Ваша сэрца супакоем, радасцю і надзеяй, дапамагае ў пераадольванні цяжкасцей і будзе Крыніцай святасці ў сённяшнім свеце. Жадаем шмат здароўя, спакойных дзён і добрых людзей на душпастырскім шляху.

*З памяццю ў малітве, удзячныя парафіяне з Забалаці*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін жадаем моцнага здароўя, радасці, усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны Ваш дзень будзе асветлены промнямі Божай міласэрнасці.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам і парафіяне з Галынкі*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, доўгіх гадоў жыцця, благаслаўлення, мноства радасных хвілін. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Дух Святы асвячае кожны дзень святарскай паслугі, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, а святы Заступнік апекуецца Вамі.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам, Вялікія Эйсманты*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Беланосу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем добрага здароўя, шмат сіл і цярплівасці. Няхай Хрыстос адорвае сваімі ласкамі, Дух Святы асвячае Ваш шлях, Марыя Панна апекуецца Вамі і вядзе найпрыгажэйшай дарогай да Пана Езуса, і кожны дзень прыносіць радасць.

*Удзячныя парафіяне з Макараўцаў*

**Паважанай Сястры Элігіі Арцыменя**

з нагоды Дня нараджэння дасылаю сардэчныя віншаванні. Жадаю доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, шмат сіл у рэалізацыі Божых планаў, стойкасці ў пераадольванні цяжкасцей. Няхай Пан Бог благаслаўляе Вас, Найсвяцейшая Панна Марыя і Анёл-ахоўнік вядуць шчаслівым шляхам, а Святы Дух удзяляе свае дары.

*З удзячнасцю, Саламея*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Здзіславу Вэдэру**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, людской зычлівасці, усіх Божых ласкаў на кожны дзень, апекі Найсвяцейшай Маці. Дзякуем за адкрытае сэрца, аддную працу, мудрыя словы. Нізкі паклон за служэнне ў нашай парафіі!

*Парафіяне, закрыстыян і арганіст Здзіслаў са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Здзіславу Вэдэру**

ў Дзень нараджэння жадаем, каб жыццё было напоўнена добрымі справамі, Бог Айцец адорваў здароўем, а Святы Дух узмацняў душу і цела. Няхай Езус Хрыстус і Яго Маці ахінаюць бязмежнай любоўю і асвячаюць кожны дзень жыцця.

*З малітвай, Віталій і Аліцыя Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Стволу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Твой святарскі шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны, а побач знаходзяцца добразычлівыя людзі. Няхай супакой і радасць паселяцца ў сэрцы, а шчаслівая ўсмешка ніколі не сыходзіць з твару. Жадаем здароўя, сіл і стойкасці, а таксама моцнай веры, надзеі і любові. Няхай Панна Марыя і Анёл-ахоўнік няспынна Табою апекуюцца.

*Сем’і Барковых і Міра Чайкоўская*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Мятліцкаму**

ў Дзень нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, поспехаў, сілы і стойкасці ў душпастырскай працы. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя мае Вас у сваёй апецы, Святы Дух удзяляе неабходных ласкі, а Пан Езус ахінае сваім благаслаўленнем.

*З малітвай, Віталій і Аліцыя Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Айцу Томашу Ксёнжкевічу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог благаслаўляе кожны дзень Вашай святарскай паслугі, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай заўсёды і ўсюды. Жадаем сапраўднай радасці, моцнага здароўя, поспехаў ва ўсім, шчасця, аптымізму і душэўнага супакою.

*Парафіяне з Азёраў*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Быкоўскаму**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог Айцец адорвае асаблівымі ласкамі, Езус Хрыстус будзе Прыкладам і Праваднікам на ўсіх шляхах, Дух Святы апраменьвае сваім святлом, а Маці Божая прытуляе да сэрца, ахінаючы апекай і любоўю.

*З памяццю ў малітве, былыя парафіяне з Адэльска*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Генрыху Яблоньскаму**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, дароў Святога Духа і ўсіх Божых ласкаў. Няхай Найсвяцейшая Маці атуляе плашчом сваёй апекі і заступаецца за Вас перад Панам, а Езус благаслаўляе кожны дзень жыцця.

*З малітвай, апостальства “Маргарытка”, Ружанцовае кола ў інтэнцыі дзяцей з парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Забалаці*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **8 0152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 265 ; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная